І ГЭТА ТАК!

# Гомельскія НАВІНКІ

Жоўтая газетка на роднай мове Верасень 2015

Першае 100% цалкам беларускамоўнае выданне Гомельскага рэгіёну

## 680 год далучэння Гомеля да Беларусі



Бацька дзяцей, якіх маці ўтапіла ў ванне ў Гомелі, хацеў бы пажыццёвага зняволення для абвінавачанай

стар. 3

Супрацоўнік УУС распавёў, як каментар «Фу, якая брыдота» пад порна прывёў гамяльчанку на лаву падсудных, і назваў сацсетку

стар. 4

Што кажуць у Рагачове пра арыштаванага старшыню райвыканкама

стар. 7

# 680 год далучэння Гомеля да Беларусі

***Тысячагадовая гісторыя беларускай дзяржаўнасці мае шмат вялікіх і важных дат, што мелі вялікае значэнне для сучаснай Беларусі.***

Адной з важнейшых такіх дат для жыхароў Гомеля і Гомельшчыны з'яўляецца 1335 год і аб ім трэба распавесці падрабязней, бо сёлета, у 2015 годзе, адзначаецца юбілей - 680 год уваходжання Гомеля ў склад Беларусі.

Чаго хаваць, расійская прапаганда настойліва нават праз Вікіпедыю спрабуе давесці, што Гомельшчына спрадвечна расійская зямля, што незаконна і без жадання жыхароў была адарваная ад РСФСР і далучаная да Беларусі ў 1926 годзе. Нажаль, трэба прызнаць, што шмат беларусаў з-за браку адукацыі і крытычнага мыслення вераць у гэта, не спрабуючы правяраць інфармацыю, што падкідвае беларусам краіна з усходу ад Магілёва.

Праўда аб Гомелі і Гомельскай зямлі наступная - гэта спрадвечная беларуская тэрыторыя, дзяржаваўтваральная для Беларусі зямля, што амаль 7 стагоддзяў афіцыйна і юрыдычна ў складзе Беларусі, спрадвечна насялялася беларусамі і яшчэ да 1335 года была беларускай, але не замацаванай за Беларуссю юрыдычна.

Кропку юрыдычным афармленні Гомеля і Гомельшчыны ў складзе Беларусі паставіў у 1335 годзе Віцебскі князь Альгерд, будучы 12-ты Вялікі князь Вялікага княства Літоўскага, адзіным пераемнікам якога зараз з'яўляецца Беларусь.

З гэтых часоў Гомель жыў лёсам пагранічнага гораду на паўднёва-ўсходняй ускраіне Беларусі, займаў важнае месца ў абарончым поясе замкаў Панізоўя. Разам са Старадубам быў часткаю «ўдзелу» князя Патрыкія Нарымунтавіча, пляменьніка Альгерда.

Сёння ў Гомелі яшчэ няма помніка Альгерду, не з'яўляецца ён і ганаровым грамадзянінам горада, хоць, несумненна, заслугоўвае гэтага як ніхто іншы і вядома, з часам сваё прызнанне ад гараджанаў Альгерд атрымае. Як атрымаў гэта прызнанне ў Віцебску, дзе не так даўно быў усталяваны яго конны помнік.

Несумненным з'яўляецца і той факт, што адна з гомельскіх вуліц павінна насіць імя князя Альгерда. Хочацца спадзявацца, што і гэта пытанне будзе ў хуткім часе вырашана. Шмат гарадскіх вуліц носяць назывы людзей, падзей і назваў, што не маюць ніякага дачынення да Гомеля і яго гісторыі, але няма вуліцы імя чалавека, што сапраўды зрабіў Гомель назаўжды беларускім.

Фактам з'яўляецца і тое, што ў іншых населеных пунктах не патрымліваецца належная павага і повязь Гомеля з іншымі часткамі Беларусі - амаль няма населеных пунктаў, што маюць вуліцу Гомельскую. З'яўленне такіх вуліц у кожным больш-меньш вялікім паселішчы Беларусі не толькі яшчэ больш моцна звяжа усе часткі Беларусі, але і addасць павагу да зямлі, што стагоддзямі стаяла на варце і абараняла нашу краіну - Беларусь.




*Ігар Случак*

# Бацька дзяцей, якіх маці ўтапіла ў ванне ў Гомелі, хацеў бы пажыццёвага зняволення для абвінавачанай

***14 верасня Гомельскі абласны суд прыняў рашэнне слухаць у закрытым рэжыме крымінальную справу ў дачыненні да 25-гадовай жыхаркі абласнога цэнтра, якая ўтапіла сваіх дзяцей — двухгадовага сына і 11-месячную дачку. Хадайнічала пра слуханні ў закрытым рэжыме абвінавачаная.***

«Тут будуць абмяркоўвацца пытанні асабістага жыцця, таму я хацела б, каб суд быў закрытым», — папрасіла Аксана. Дзяржаўны абвінаваўца не бачыў неабходнасці слухаць справу ў закрытым рэжыме, пацярпелы, бацька забітых дзяцей, падтрымаў пазіцыю пракурора.

Дзеянні жанчыны кваліфікаваныя паводле пунктаў 2, 6 і 16 часткі 2 артыкула 139 КК (забойства малалетніх, учыненае з асаблівай жорсткасцю).

Да судовага пасяджэння бацька двухгадовага Савелія і 11-месячнай Ангеліны заявіў, што хацеў бы дамагчыся пажыццёвага зняволення для абвінавачанай. Крымінальны кодэкс Беларусі прадугледжвае для жанчын максімальнае пакаранне ў выглядзе 25 гадоў пазбаўлення волі.

«Дваццаць пяць гадоў занадта мала. Хаця яе Бог пакарае, ужо пакараў. Яна вельмі любіла дзяцей, я не разумею, як гэта здарылася. Магчыма, гэтаму спрыялі сацыяльныя службы, якія пагражалі забраць дзяцей у Аксаны за тое, што ў доме было не прыбрана, напрыклад. А як яна магла заўсёды своечасова прыбірацца з двума маленькімі дзецьмі? Яна сама з дзіцячага дома, таму разумела, што там чакае яе дзяцей, калі іх забяруць», — сказаў бацька дзяцей Алег.

Ён не быў біялагічным бацькам Савелія і Ангеліны, але юрыдычна ўстанавіў бацькоўства.

«Алег пазнаёміўся з ёй, калі Аксана была ўжо цяжарная, яе кінуў хлопец. Яны пачалі сустракацца, і Алег устанавіў бацькоўства над гэтым дзіцем. Яны жылі разам, потым разышліся, і калі Аксана зноў зацяжарала, яна засталася адна, памерла яе цётка, і яны зноў сышліся з Алегам. Так ён юрыдычна лічыўся бацькам дзяцей. Ён дзяцей вельмі любіў, і дагэтуль не можа перажыць гэтае гора», — растлумачыла маці маладога чалавека Любоў Мікалаеўна. Паводле яе слоў, абвінавачаная была вельмі замкнутым чалавекам. Алкаголь не ўжывала, не курыла, дзяцей глядзела.



Перад судовым пасяджэннем абвінавачаная ўсміхалася, не хавала твар ад фотаапаратаў і відэакамер.

Нагадаем, вечарам 7 красавіка жанчына прымала ванну разам з двухгадовым сынам. Кіруючыся раптам узніклай задумай, з мэтай пазбаўлення жыцця, абвінавачаная пагрузіла дзіця ў ваду ў ванне і ўтрымлівала там да наступлення яго смерці.

Затым яна прынесла з пакоя дачку 2014 года нараджэння і ўтапіла яе. Пасля гэтага жанчына прыбрала ў кватэры, дастала целы дзяцей з вады, перанесла ў пакой, апранула іх і патэлефанавала ў міліцыю.

Паводле заключэння псіхолага-псіхіятрычнай экспертызы, у абвінавачанай у перыяд часу, які адносіцца да ўчынення забойства, дыягнастуецца дысацыяльнае расстройства асобы. Эксперты ўстанавілі, што ў момант забойства яна не знаходзілася ў стане афекту, магла ўсведамляць фактычны характар сваіх дзеянняў і кіраваць імі.

Абвінавачаная выхоўвалася ў дзіцячым доме, пасля вучобы ў ПТВ працавала ў ААТ «8 Сакавіка». Шлюб не заключала, расціць дзяцей дапамагаў сужыцель, які ўстанавіў бацькоўства ў дачыненні да хлопчыка і дачкі. Маці з дзецьмі жыла ў сацыяльнай кватэры ў новым мікраараёне Гомеля.

.

*Алена Германовіч, БелаПАН*

# Супрацоўнік УУС распавёў, як каментар «Фу, якая брыдота» пад порна прывёў гамяльчанку на лаву падсудных, і назваў сацсетку

***«Фу, якая брыдота!» — пакінула каментар гамяльчанка пад парнаграфічным ролікам у сацыяльнай сетцы ў інтэрнэце і ледзь не патрапіла ў турму. Ад некалькіх гадоў у месцах пазбаўлення волі яе выратавала амністыя.***

Нядаўна гэтая навіна засвяцілася ва ўсіх сродках масавай інфармацыі. Чытацкая аўдыторыя тут жа выказала сваё абурэнне: «Саджаць чалавека ў турму за каментар і тым больш адмоўны?!»

За кароткі час градус абмеркаванняў тэмы зашкаліў, практычна ўсе спачувалі дзяўчыне і абураліся дзеяннямі праваахоўнікаў. Прызнацца, апісаная сітуацыя выглядала па меншай меры дзіўна, захацелася падрабязнасцяў. Ці сапраўды за каментар у сацсетках можна трапіць за краты, колькі гадоў могуць даць за лайк пад «клубнічкай» і ці варта захоўваць фатаграфіі «ніжэй за пояс», разбіралася карэспандэнт «ГВ».




*Правілы карыстання інтэрнэтам*

Каментары ў сацыяльных сетках, на розных сайтах у інтэрнэце самі па сабе не нясуць якой-небудзь адказнасці, чалавек вольны каментаваць што заўгодна і дзе заўгодна, — каментуе Руслан Хіхол, старшы оперупаўнаважаны па асабліва важных справах УНіСГЛ УУС Гомельскага аблвыканкама. — Але пры гэтым трэба разумець, што інтэрнэт, як і любая іншая рэч, мае свае правілы карыстання.

У тых жа сацыяльных сетках гэтыя правілы размешчаны ўнізе старонкі. Кожны, хто рэгіструецца, павінен іх прачытаць і, становячыся карыстальнікам, выконваць.

Улічыўшы заўвагу супрацоўніка УУС, у якасці прыкладу возьмем сацыяльную сетку «Укантакце», дзе разгарнуліся падзеі апісанай у пачатку гісторыі. Чаму нічым не характэрны каментар жыхаркі абласнога цэнтра прыцягнуў увагу работнікаў органаў унутраных спраў?

Кожны, хто карыстаецца гэтай сацыяльнай сеткай, ведае, што інфармацыя аб каментарах, «лайках», націску кнопкі «Падзяліцца з сябрамі» становіцца здабыткам сяброў карыстальніка, а то і сяброў яго сяброў. Гэта значыць, пэўнае кола людзей зможа ўбачыць, якая фатаграфія, відэаролік, карцінка або тэкст зацікавілі таго ці іншага карыстальніка. Больш за тое, многія дадаткі сеткі працуюць такім чынам, што каментары адлюстроўваюцца на асабістых старонках са спасылкай на рэсурс саміх каментатараў аўтаматычна. А за ўсё, што размешчана на іх асабістых старонках, карыстальнікі нясуць поўную адказнасць.

— Глядзець, чытаць, наведваць можна якія заўгодна суполкі, дадаткі, сайты, у гэтым нічога супрацьзаконнага няма, — удакладняе Руслан Хіхол. — Але глядзець — гэта адно, а размяшчаць у сябе на старонцы — зусім іншае. Бо размяшчаючы ў сябе які-небудзь кантэнт, вы фактычна яго рэкламуеце, робіце даступным шырокаму колу карыстальнікаў. У выпадку з порнаролікамі вы рэкламуеце парнаграфію, то бок займаецеся яе распаўсюдам. А гэта злачынства.

Дзяўчына, пра якую ішла гаворка спачатку, не проста нешта пракаментавала. Гэтая інфармацыя адлюстравалася ў агульным доступе, адсылаючы ўсіх зацікаўленых да прагляду парнаграфічнага відэа.

*Ніжэй/вышэй за пояс*

Кожны, хто хоць раз бываў у інтэрнэце, ведае, наколькі гэта разнапланавая крыніца інфармацыі. Дзяўчыны ў бікіні з агаленай грудзьмі, мужчыны з… такой жа колькасцю адзення… Прабе-

глася вачыма па старонках сяброў у сацыяльных сетках, асабліва не капаючыся, і знайшла з дзясятак аматараў жаночай натуры. Аголенай, натуральна. Наколькі я ведаю, ад міліцыі прэтэнзій да іх не паступала.

Як аказалася, не ўсё, што без адзежы, порна. Па словах Руслана Аляксандравіча, выразнае вызначэнне «аголеная» з'яве дае заканадаўства. Парнаграфія — гэта выява людзей або іншых аб'ектаў, якія імітуюць альбо дэманструюць палавы акт, ці дэманструюць палавыя органы. Гэта значыць, дзяўчына ў адных майтках — гэта эротыка. «Шчырасць» ніжэй за пояс — ужо парнаграфія.

Дарэчы, выяўляюць сумніўныя файлы супрацоўнікі ўнутраных спраў, а вось заключэнне, з'яўляецца выява або відэа парнаграфічным, робіць экспертная камісія, створаная пры Гомельскім аблвыканкаме.

*18+*

Трэба адзначыць, што да гэтага моманту наш размова датычылася дарослых аголеных мужчын і жанчын, якія трапілі ў аб'ектыў фота- або відэакамеры. Калі ў сумніўны кадр трапіў непаўнагадовы, змякчальнага паняцця эротыкі няма. Усе факты фота- і відэафіксацыі, а таксама распаўсюджвання недвухсэнсоўных сюжэтаў з непаўналетнімі, з'яўляюцца злачынствам.

— Для таго каб зразумець, чаму вядзецца барацьба з дзіцячай парнаграфіяй, трэба ўсвядоміць, што гэта з'ява сабой нясе, — тлумачыць суразмоўца. — Усе нашы намаганні ў прынцыпе накіраваны на выяўленне фактаў з удзелам непаўналетніх, парнаграфія «з дарослымі» выяўляецца паралельна. У нас ёсць падставы меркаваць, што чалавек, які праглядае «недзіцячыя» відэа з дзецьмі, альбо схаваны злачынец, альбо патэнцыйны.

Ва ўсіх затрыманых педафілаў пасля мы знаходзім такое відэа, і часам у велізарных кольксцях. Здароваму чалавеку дзіцячая парнаграфія як мінімум не цікавая, а ў большасці выпадкаў непрыемная. Здабываючы такія матэрыялы, мы змагаемся за нашу моладзь. Даступнасць дзіцячай парнаграфіі маладыя людзі могуць расцаніць, напрыклад, так: калі гэта можна свабодна глядзець, абмяркоўваць, дзяліцца ўражаннямі, значыць, можна паспрабаваць і ў жыцці. Адсюль выцякаюць злачынствы на сэксуальнай глебе, псіхічныя адхіленні. Калі не было такіх інфармацыйных магчымасцяў, з многімі злачынствамі мы сутыкаліся вельмі рэдка. А сёння ў нас у вобласці зарэгістравана больш за 50 спраў па злачынцах-педафілах.

Разумееце, не факт, што чалавек, што распаўсюджвае парнаграфію, зробіць іншае злачынства, але працэнтная верагоднасць між тымі, хто не распаўсюджвае і хто распаўсюджвае, зусім розная. Даўно адзначана: калі мы затрымліваем педафіла, даказваем пасля, што ён распаўсюджваў дзіцячую парнаграфію. Знаходзім «спецыяліста» па дзіцячай парнаграфіі, у многіх выпадках аказваецца, што чалавек мае дачыненне да педафіліі.

Супрацоўнікі Міністэрства ўнутраных спраў зараз змагаюцца за змены ў Крымінальным кодэксе, у выпадку прыняцця якіх будзе прадугледжвацца крымінальная адказнасць за калекцыянаванне дзіцячай парнаграфіі, сёння забаронены толькі яе выраб і распаўсюд.

Ню — мастацтва ці злачынства?

> Я забіраю свае словы назад, я прыдумаў больш крыўдныя.

— З развіццём інтэрнэту і магчымасцяў лічбавай здымкі сёння фатаграфуюць і дзеляцца фотаработамі амаль усе. У інтэрнэце на кожным кроку фатографы прапануюць свае паслугі. Многія працуюць у жанры ню. Калі такое фота зроблена прафесійна, выглядае не пошла і нават прыгожа, ці можа фатограф-ас трапіць за яго ў турму?

— Справа не ў тым, прафесійна зроблена фота або не, — кажа Руслан Хіхол і вяртае нашу гутарку да вызначэння паняцця парнаграфіі. — Важна, што на ім і дзе гэты здымак размешчаны. Ды і, як правіла, прафесійныя фатографы вельмі добра арыентуюцца ў тым, што законна, а што не, і парнаграфію не здымаюць. У крайнім выпадку, эротыку. Для партфоліа адкрытыя здымкі «ніжэй за пояс» не патрэбныя.

— А калі чалавек сам сябе фатаграфуе ў чым маці нарадзіла і дзеліцца гэтым з сябрамі ў «Укантакце»?

— Значыць, ён здзяйсняе злачынства. Неяк затрымалі хлопца, які сам сябе фатаграфаваў на тэлефон і праз паведамленні пасылаў здымкі жанчынам, знаёмым і не вельмі. Гэта таксама парушэнне закона.

— А калі група ў сацыяльнай сетцы створана для карыстальнікаў нетрадыцыйнай арыентацыі і там публікуюцца адпаведныя карцінкі?

— Закон не забараняе быць гомасэксуалам. Закон забараняе распаўсюд парнаграфіі і злачынствы ў адносінах да дзяцей. Дарослыя могуць быць любой сэксуальнай арыентацыі, але яны не могуць зманьваць у гэта непаўналетніх.

*Усе ўзросты пакорлівыя*

З пачатку года ў Гомельскай вобласці зарэгістравана 62 факты распаўсюджвання парнаграфіі, з іх 5 — дзіцячай. Асноўная маса злачынстваў была

# Супрацоўнік УУС распавёў, як каментар «Фу, якая брыдота» пад порна прывёў гамяльчанку на лаву падсудных, і назваў сацсетку. Працяг

выяўлена ў сацыяльных сетках. У першым выпадку «распаўсюдніку» пагражае да 5 гадоў пазбаўлення волі, у другім — да 13. Раблю здагадку, што, напэўна, часцей за такія парушэнні трапляюцца маладыя людзі, учорашнія падлеткі.

— Зусім не. Узрост і сацыяльны статус затрыманых самы розны. У адным з апошніх выпадкаў на лаву падсудных патрапіў пенсіянер. Сын купіў яму новы тэлефон, навучыў карыстацца сацыяльнымі сеткамі. Тата пайшоў далей за простыя зносіны з сябрамі і стаў капіяваць сабе на старонку парнаграфічныя матэрыялы. Што цікава, мужчына запампоўваў іх і выкладаў у свабодны доступ, знаходзячыся на працоўным месцы.

Па словах Руслана Аляксандравіча, тэндэнцыя выяўлення распаўсюднікаў «клубнічкі» расце. Інтэрнэт даў шмат магчымасцяў. Карысных і не вельмі. Маё меркаванне, што большасць трапляецца па няведанні, спецыяліст амаль катэгарычна адпрэчыў.

— Практычна ўсе затрыманыя, як высвятляецца падчас следства, распаўсюджвалі парнаграфію наўмысна. Больш за тое, паўтару, нават у сацыяльных сетак ёсць правілы карыстання, якія трэба ведаць, — завяршае размову Руслан Хіхол. — Але нават калі хтосьці здзейсніў незаконныя дзеянні выпадкова, то адказнасці гэта не здымае. Довад «Я не ведаў» не з'яўляецца апраўдальным.

*Ягор Марціновіч*

## На трасе «Мінск—Гомель» сутыкнуліся фура з сырамі і самазвал

***У сераду, 9 верасня, на 135 км трасы М-5 перад паваротам на вёску Саломінка каля 16 гадзін адбылося ДТЗ з удзелам фуры Mercedes-Benz 1844 і грузавіка МАЗ.***

Па словах відавочцы здарэння Анатоля Волкава, кіроўца фуры, якая рухалася з боку Мінска, не справіўся з кіраваннем: Mercedes вынесла на сустрэчную паласу, дзе ён перакрыў рух МАЗу.

«Прайшоў дождж, траса была мокрая, вось фуру і занесла. Я ехаў следам за ёй і бачыў, як усё здарылася, — распавёў Анатоль Волкаў.

У выніку сутыкнення адбылася дэфармацыя кабіны МАЗа, у якой апынуўся заблакаваны кіроўца.

Для яго вызвалення былі прыцягнутыя супрацоўнікі МНС. З траўмамі, характар якіх і ступень цяжару трэба будзе вызначыць медыкам, пацярпелы быў шпіталізаваны.

Другі кіроўца і цягач не пацярпелі, чаго не скажаш пра рэфрыжэратарны паўпрычэп з сырам, які атрымаў сур'ёзныя пашкоджанні.

*Святлана Галоўкіна, «Вячэрні Бабруйск»*

## У Жлобінскім раёне ў ДТЗ разбілася сям'я

***Увечары 4 верасня адбылося ДТЗ у Жлобінскім раёне: каля вёскі Беліца аўтамабіль «Лянча» ўрэзаўся ў грузавік.***

Як паведамляе Гомельскае абласное ўпраўленне МНС, адбылося лабавое сутыкненне грузавога аўтамабіля «Івека» і лёгкага «Лянча». У салоне легкавога аўтамабіля была заблакаваная жанчына, без прыкмет жыцця. Работнікамі МНС з ужываннем гідраўлічнага інструмента загінулая была дэблакавана.

Аўтамабіль «Івека» не рухаўся, стаяў на абочыне, кіроўца знаходзіўся пад аўтамабілем — праводзіў рамонтныя работы, не пацярпеў.

У салоне легкавога аўтамабіля знаходзіліся тры чалавекі: кіроўца 1976 года нараджэння, дзяўчынка 4-5 гадоў і загінулая. Кіроўца і дзяўчынка знаходзяцца ў аддзяленні рэанімацыі.

*БелаПАН*



# Што кажуць у Рагачове пра арыштаванага старшыню райвыканкама

***Паводле незалежнага парталу «Рагачоў анлайн», Сяргея Якаўлева арыштавалі ў яго доме праз некалькі гадзін пасля святочнай лінейкі ў СШ №6, на якой ён прысутнічаў у якасці «ганаровага» госця: «Кіраўніка горада арыштавалі дома, прыкладна ў 19:20».***

Паводле сьледзтва, старшыня Рагачоўскага райвыканкама, калі будаваў прыватнае жыльлё, загадваў падначаленым яму арганізацыям перадаваць яму таварна-матэрыяльныя каштоўнасьці па заніжанай цане, а таксама прадстаўляць паслугі бяз поўнай аплаты.

Рагачоўскі райвыканкам апошнія два гады ўзначальваў Сяргей Якаўлеў.

Што кажуць мясцовыя жыхары пра магчымую датычнасьць яго да карупцыі, пра стыль кіраваньня і імаверныя прычыны крымінальнага перасьледу?

Грамадзкі актывіст, рэдактар парталу «Рагачоў анлайн» Дзяніс Дашкевіч згадаў, што першыя зьвесткі пра магчымы арышт Сяргея Якаўлева ў Рагачове зьявіліся яшчэ ў чэрвені ў сувязі са справай іншага падазраванага ў карупцыі чыноўніка, былога намесьніка старшыні Гомельскага аблвыканкаму Віктара Банчука.

«Банчук жа ад нас «пайшоў» у Гомель. У Рагачове ён два гады таму быў старшынёй райвыканкаму, да прызначэньня Сяргея Якаўлева.

Цяпер кажуць, што Банчук пачаў супрацоўнічаць са сьледзтвам, актыўна дае паказаньні, у тым ліку і на былых калегаў. Яго прывозілі ў Рагачоў на сьледчыя дзеяньні, вадзілі па горадзе, у тым ліку па цэнтры, дзе павінны былі зрабіць парк. Грошы на парк выдзелілі вялікія, але нічога не пабудавалі, толькі яму выкапалі.

Таму ня выключана, што ў справе Якаўлева будуць і іншыя эпізоды, а ня толькі дом, які ён будуе. Дарэчы, дом гэты ня надта і вялікі, два паверхі, у мікрараёне Задруцьце. А жыў ён у ведамасным доме, дзе раней жыў Банчук — той дом добры, вялікі, за агароджай, з садам. Але вось вырашыў яшчэ і свой пабудаваць. Аднак, паводле нашых зьвестак, там не такія і вялікія сумы яму інкрымінуюць».

Чаму на чыноўніка вырашылі завесьці крымінальную справу, а ня проста адправілі ў адстаўку? Дзяніс Дашкевіч не выключае, што гэтак цэнтральная ўлада адводзіць ад сябе ўсё большае незадавальненьне жыхароў раёну.

«Людзі ўзлаваныя, бо фактычна стаяць усе прадпрыемствы — 90% ужо не працуюць.

Мэблевая фабрыка цалкам спыненая, цагляны завод — зьнішчаны, на «Дыяпраектары» раней працавала каля 5 тысяч працаўнікоў — цяпер каля тысячы. Скарачэньні ідуць на мясцовым малочным камбінаце, заробкі ў людзей упалі ў некалькі разоў. У горадзе вялікія праблемы з інфраструктурай — нават няма вялікай крамы. Пачалі будаваць гандлёвы цэнтар, але ўжо 3 гады ня могуць дабудаваць. Вось з усіх гэтых цаглінак і складаецца незадавальненьне. Прычым, відаць, незадавальненьне ідзе на адрас і паважанага прэзыдэнта, таму вырашылі гэтак перанакіраваць гнеў людзей».

Мясцовы грамадзкі актывіст Уладзімер Мельнікаў кажа, што адмоўных момантаў у працы Сяргея Якаўлева ў Рагачоўскім райвыканкаме хапала.

«Пра яго на пасадзе да прызначэньня ў Рагачоў казалі, што прынцыповы чалавек, патрабавальны, пунктуальны.

А тут ужо сталі казаць, што нібыта хамаваты, мог і брыдкасловіць, і прынізіць. Расказваюць, што неяк на жанчыну казаў пры ўсіх, што «…паставіць».

Не прысутнічаў пры гэтым, таму дакладна ня ведаю, ці так было. Але ж гэта агульная тэндэнцыя. І вось аказалася, што і домік нейкі… Ну, як заўсёды».

Паводле Ўладзімера Мельнікава, у Рагачове ўжо шмат гадоў не было ніякіх апазыцыйных акцыяў. «Запужалі людзей, зацюкалі гэтак, што ніхто ўжо і не зьвяртаецца, дый месца правядзеньня акцыяў дагэтуль ня вызначылі. На мясцовых выбарах два гады таму ішло чалавек 5 незалежных кандыдатаў. Не апазыцыянэры, а проста людзі не ад улады, пэнсіянэры, якія іх бы хоць маглі пакрытыкаваць. Дык нікога не прапусьцілі. Маніпулююць вынікамі, як хочуць. Наш мясцовы актывіст Уладзімер Тамковіч злавіў іх за руку, выклаў у інтэрнэт, як насамрэч было на тых выбарах. Што паводле пратаколу на датэрміновае галасаваньне прыйшло 307, а напісалі — 640. У дзень асноўнага галасаваньня прыйшло 485, а 615 напісалі. Тамковіч пайшоў да пракурора, каб правялі праверку. Правялі і далажылі, што нібыта ўсё нармальна. І які вынік? А вось які.

Што робіць улада, якую прызначаюць зьверху? Займаецца карупцыяй. Калі будзем іх абіраць, дык будуць падкантрольныя. А так ён будзе ўсіх далей пасылаць і ў позу «ставіць» тую жанчыну».

*БелаПАН*

# У Светлагорску 56-гадовы мужчына разбэшчваў дзяўчат-падлеткаў

***Светлагорскім раённым аддзелам Следчага камітэта завершана расследаванне крымінальнай справы аб злачынствах супраць палавой недатыкальнасці і палавой свабоды ў дачыненні да непаўналетніх.***

Устаноўлена, што названыя злачынствы на працягу некалькіх гадоў здзяйсняў 56-гадовы жыхар Светлагорска, паведаміла афіцыйны прадстаўнік УСК па Гомельскай вобласці Марыя Крываногава.

«Па крымінальнай справе пацярпелымі прызнаныя жыхаркі райцэнтра. На падставе сабраных па справе доказаў следствам прад'яўлена абвінавачанне па некалькіх артыкулах Крымінальнага кодэкса Беларусі: ч. 1 арт. 169, ч. 1, 2 арт. 168, ч. 2, 3 арт. 167, ч. 2 арт. 166, ч. 1, 3 арт. 157. Мера стрымання ў дачыненні да абвінавачанага засталася ранейшай — заключэнне пад варту. Следчы камітэт звяртае ўвагу, што пры расследаванні крымінальных спраў гэтай катэгорыі следствам у першую чаргу ўлічваюцца інтарэсы непаўналетніх. Звесткі, што закранаюць іх палавую недатыкальнасць і палавую свабоду, не выдаюцца», — адзначыла Крываногава.

Паводле неафіцыйнай інфармацыі, мужчына разбэшчваў непаўналетніх, якім на момант здзяйснення злачынства было 13-15 гадоў. Абвінавачаны — працаўнік мясцовага прадпрыемства. Мужчына неаднаразова ў сябе дома паказваў дзяўчатам часопісы і гульнявыя карты з выявамі парнаграфічнага характару з мэтай ўзбуджэння палавой цягі, затым агаляўся ў іх прысутнасці і здзяйсняў распусныя дзеянні.

*БелаПАН*

# У гомельскай школе невядомыя падпалілі дзверы актавай залы

***Каля 6-й гадзіны раніцы 31 жніўня гомельскія ратавальнікі атрымалі выклік у сярэднюю школу №59. Там спрацавала пажарная сігналізацыя, і вартаўнік школы паведаміў пра пажар.***

Як паведамляе 112.by, у актавай зале, размешчанай на першым паверсе школы, гарэлі дзверы запаснога выхаду. Агонь пашкодзіў дзверы, але пацярпелых няма.

Асноўная версія пажару, якую разглядаюць спецыялісты, — падпал.

На навучальны працэс пажар не паўплываў. Рамонтам школа занялася самастойна.




M&S MEDIA

Неперыядычнае выданне
Інфармацыйна-забаўляльная газета
«Гомельскія Навінкі Верасень 2015»
Уладальнік выдання - M&S Media

Заснавальнік: Гуан Карлас
Галоўны рэдактар: Лявон Грос
Галоўны дызайнер: Аляксей Венецыянаў

246006, г. Гомель, вул. Замаева, 69
Рэдакцыя "Гомельскія Навінкі 2015"

Надрукавана на папяровай фабрыцы "ГумНо", г. Клінцы, вул. Мажаеўская, 17б.




Тыраж: 250 асобнікаў.
Распаўсюджваецца безкаштоўна.

Мы ў сацыяльных сетках:
**vk.com:** gnavinkicom
**facebook.com:** spravavodstva

Наш ***e-mail:*** gnavinki@gmail.com

M&S MEDIA